№ 9 (154)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Жнівень 2013 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

Цеплавая і электрычная энергія для жыхароў Беларусі падаражэла з 1 жніўня 2013 года.

Адпаведнае рашэнне змяшчаецца ў пастанове Савета Міністраў ад 29 ліпеня 2013 года №663 «Аб унясенні змяненняў у пастанову Савета Міністраў Беларусі ад 4 лютага 2011 года №138 і некаторых мерах па зніжэнні выдаткаў на вытворчасць электрычнай і цеплавой энергіі».

### У Прыдняпроўі

К новому учебному году в школах Могилевской области появится 32 новых автобуса — 10 выделяются по поручению Президента от Банка развития Республики Беларусь и 22 в рамках госпрограммы устойчивого развития села.

Автобусы от Банка развития получат Могилевский, Шкловский, Осиповичский, Быховский, Белыничский, Климовичский, Кличевский, Кричевский, Круглянский и Чаусский районы.

### У раёне

Выставка гобеленов минской художницы Марии Борисенко открылась в районном центре Белыничи. Экспозиция под названием «Джаз. Блюз. Битлз» разместилась в музее имени В. Белыницкого-Бирули.

Художник по гобеленам Мария Борисенко окончила Белорусский госуниверситет культуры (кафедра народных ремесел). Участвовала во многих выставках и конкурсах. Ее работы находятся в частных и государственных коллекциях Беларуси, России и Венесуэлы.

Выставка продлится до 24 августа.

У Магілёўская абласной друкарні імя С.Собаля выйшла ў свет новая кніга бялыніцкага пісьменніка Міколы Падабеда "Іду на сустрэчу з навальніцай".

Структурна кніга падзяляецца на два раздзелы, першы з іх уключае аповесць "Іду на сустрэчу з навальніцай". У другім размешчаны сатырычныя і гумарыстычныя апавяданні.

## ЛУКАШЕНКО ОТСТРАНИЛ ОТ УПРАВЛЕНИЯ КАЛИЕМ НАШЕГО ДЕПУТАТА

***Президент Беларуси Александр Лукашенко 25 июля назначил Валерия Иванова заместителем главы своей администрации.***




Напомним, что до нового назначения Валерий Иванов работал в должности генерального директора ЗАО "Белорусская калийная компания" (БКК).

Валерий Николаевич избран членом Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь пятого созыва от Могилевской области (выдвинут от Белыничского, Круглянского и Шкловского районов). До этого был депутатом Палаты представителей четвёртого созыва по Шкловскому избирательному округу, в который входит наш Белыничский район.

После перемещения Иванова на

*(Окончание на стр. 8)*

## МАГІЛЁЎСКІЯ ПРАВААБАРОНЦЫ ПАТРАБУЮЦЬ ВЫЗВАЛЕННЯ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА І ЎСІХ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

Заяўку на правядзенне пікету з адпаведнымі мэтамі ў Магілёўскі гарвыканкам падалі Аляксей Колчын і Барыс Бухель. Праваабаронцы маюць намер зладзіць пікет 4 жніўня ў цэнтры горада насупраць будынку Галоўпаштамта.

"Мы хочам прыцягнуць увагу магілёўцаў да праблемы наяўнасці палітвязняў у нашай краіне, каб людзі ведалі, што палітычныя апаненты рэжыма пераследуюцца ўладай. Мы таксама патрабуем, каб праваабаронца Алесь Бяляцкі быў вызвалены і рэабілітаваны ў сваіх правах", - гаворыць праваабаронца Аляксей Колчын.

Нагадаем, што 4 жніўня 2011 году Алесь Бяляцкі быў арыштаваны па абвінавачванні ва ўхіленні ад выплаты падаткаў (утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры, артыкул 243, частка 2 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь). 24 кастрычніка таго ж года ён быў асуджаны на 4,5 гады калоніі.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГЛАЗ ЗАПЕЛ

***Бывший первый секретарь Белыничского райкома партии и бывший депутат Палаты представителей Анатолий Глаз осваивает карьеру певца.***

Анатолий Глаз, занимавший также в прошлом должность заместителя председателя Могилевского облисполкома, давно известен как исполнитель песен, сообщает mogilevnews.by. В свое время он приложил немало усилий к возрождению ВИА «Каскад». С первых дней существования Могилеве этого легендарного ансамбля воинов-интернационалистов принимает в нем самое активное участие в качестве исполнителя.

Недавно Анатолий Глаз и группа «Каскад» записали диск, который насчитывает 40 композиций. Символично, что авторство двух первых песен пластинки принадлежит нашему земляку народному артисту Беларуси композитору Валерию Иванову (просим читателей не путать композитора с нашим депутатом Совета республики, тоже Валерием Ивановым).

Услышать выступление Анатолия Глаза и «каскадовцев» можно было 2 августа в День десантника в Могилеве на открытой площадке у фонтанов в сквере 40-летия Победы.

Что ж, остаётся только порадоваться за бывшего строителя коммунизма и нашего светлого будущего. Себе, и своим детям и внукам, счастливое будущее Анатолий Тихонович обеспечил. Почему ж ему сейчас не петь, получая очень хорошую депутатскую пенсию, и одновременно возглавляя филиал Белгосстраха по Могилёвской области, и получая ещё при этом ну очень хорошую зарплату (зарплата в страховых организациях и финансовом секторе, согласно Белстата, находится в числе лидеров среди отраслей народного хозяйства нашей страны).

К сожалению, многих из тех людей, которым Анатолий Тихонович на протяжении многих лет рассказывал, как счастливо они будут жить в скором будущем, на песни почему-то не тянет. Им больше приходится думать, как выжить при постоянно растущих ценах, получая мизерные пенсии за многолетнюю трудовую деятельность…

Напомним читателям “Паходни” основные вехи трудовой биографии нового певца и бывшего пламенного коммуниста Анатолия Тихоновича Глаза.

Родился Анатолий Глаз 8 ноября 1951 года в деревне Калатичи Глусского района Могилевской области. Образование высшее — окончил Белорусскую сельскохозяйственную академию, Минскую высшую партийную школу; ученый агроном-экономист, кандидат экономических наук, доцент.

Трудовую деятельность начал в должности главного агронома колхоза имени Чапаева Глусского района Могилевской области. Работал вторым и первым секретарем Глусского райкома комсомола, вторым и первым секретарем Могилевского обкома комсомола, председателем исполкома Бобруйского районного Совета депутатов, первым секретарем Белыничского райкома КПБ Могилевской области, заместителем генерального директора по кадрам и быту, заместителем генерального директора по коммерческим вопросам народного объединения «Бобруйскмебель», председателем Бобруйского районного исполнительного комитета, заместителем председателя Могилевского областного исполнительного комитета.



*Анатолий Глаз*

Является председателем Могилевского областного отделения Республиканского общественного объединения «Белорусский детский фонд».

Награжден орденом Франциска Скорины, медалями «За трудовую доблесть», «За ратную доблесть», орденом Святого Благоверного цесаревича Димитрия.

До назначения директором филиала Белгосстраха в октябре 2012 года — заместитель председателя Постоянной комиссии Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь по правам человека, национальным отношениям и средствам массовой информации.

***Богдан Иванов.***

## НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ ЗАБІЛІ 1100 ДЗІКОЎ — 10% УСЁЙ ПАПУЛЯЦЫІ

Адстрэл жывёлаў праводзіцца з мэтай змяншэння рызыкі распаўсюду віруса афрыканскай чумы свіней.

Сярод знішчаных жывёл інфекцыі не выяўлена, паведамляе БелаПАН.

Паводле інфармацыі спецыялістаў Магілёўскага дзяржаўнага лесагаспадарчага аб’яднання, у рэгіёне ўжо забіта 10% усёй папуляцыі жывёл у вобласці. Сцвярджаецца, што пакуль гаворка ідзе толькі пра змяншэнне папуляцыі дзікоў, аднак ёсць мясціны (Круглянскі, Шклоўскі і Горацкі раёны), дзе збіраюцца забіваюць жывёл пагалоўна.

Ня выяўлена ў рэгіёне і выпадкаў захворвання свойскіх свіней. Гаспадаркі, якія маюць вялікія свінакомплексы, узмацнілі захады па прафілактыцы. Улады заклікаюць насельніцтва праяўляць пільнасць і не набываць замежных канцэнтрываных кармоў.

***Уласная інфармацыя.***

# У ШКЛОВЕ ПРАЦЯГВАЮЦЬ КРАСЦІ

***Чыноўнік Шклоўскага Жылкамгаса падазраецца ў прычыненні ўрону прадпрыемству больш чым на паўмільярда рублёў, паведамляе інфармацыйнае агенцтва БелаПАН.***

Пракуратурай Магілёўскай вобласці па матэрыялах службы па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Магілёўскага аблвыканкама і Шклоўскага РАУС распачатая крымінальная справа ў дачыненні да службовай асобы шклоўскага УКП «Жылкамгас» за перавышэнне службовых паўнамоцтваў (ч. 3 арт. 426 КК).

Як паведаміла БелаПАН старэйшы оперупаўнаважаны па асабліва важных справах галоўнага ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі МУС Вераніка Пасмецьева, аператыўнікі службы БЭЗ Магілёўскай вобласці ў ходзе праведзеных аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў устанавілі, што падазраваны на працягу васьмі месяцаў набываў у аднаго і таго ж прадпрыемства-пастаўшчыка ў Віцебску розныя таварна-матэрыяльныя каштоўнасці за кошт сродкаў свайго прадпрыемства.




Будучы ўпаўнаважаным распараджацца маёмасцю і сродкамі «Жылкамгаса», ён з траўня па снежань 2012 года парушаў парадак закупак тавараў для патрэб прадпрыемства, не ўзгадняючы закупкі з вышэйстаячым кіраўніцтвам, арганізаваў набыццё за кошт жыллёва-камунальнага прадпрыемства розных камплектуючых матэрыялаў па коштах, якія значна перавышаюць кошт аналагічных тавараў у іншых пастаўшчыкоў.

Агульная сума выдаткаў прадпрыемства на набыццё тавару склала амаль 1 млрд. рублёў, хоць набыць аналагічны тавар у іншых прадпрыемстваў-пастаўшчыкоў можна было ў 2,5 разы танней.

Такім чынам, у выніку наўмысных дзеянняў службовай асобы шклоўскага УКП «Жылкамгас» нанесены ўрон прадпрыемству ў асабліва буйным памеры на агульную суму 546 млн. рублёў.

Крымінальная справа ў дачыненні да падазраванага для далейшага расследавання будзе перададзеная ў следчыя органы.

Як стала вядома журналістам "Паходні", службовая асоба, супраць якой распачатая крымінальная справа за перавышэнне службовых паўнамоцтваў, - гэта дырэктар шклоўскага УКП "Жылкамгас" І. Зараз І. на сваёй пасадзе ўжо не працуе, знаходзіцца пад вартай у следчым ізалятары ў Магілёве.

Таксама нагадаем чытачам "Паходні", што апошнім часам Шклоўскі раён скалынаюць пастаянныя громкія карупцыйныя скандалы. Зараз пад следствам у суседнім з Бялынічамі раёне знаходзяцца цэлы шэраг буйных шклоўскіх чыноўнікаў рознага рангу. Малая радзіма Аляксандра Лукашэнкі з'яўляецца адным з лідэрам па карупцыйных злачынствах у нашай краіне.

Дарэчы, за апошнія гады ў Шклоўскім раёне знялі з пасады за злоўжыванне службовым становішчам і шматлікія парушэнні ў працы чатырох дырэктараў УКП "Жылкамгас". Два з іх пасля пабывалі за кратамі, трэцці рыхтуецца зараз.

Хочацца запытацца, навошта было ўладам у свой час прымушаць сыйсці з пасады дырэктара шклоўскага УКП Жылкамгас" "праклятага бэнээфаўца", нашага зямляка, Рыгора Кастусёва? Магчыма, каб яго наступнікам было лягчэй красці, а пасля патрапіць на нары? Той жа Рыгор Кастусёў два разы падрыхтоўваў Шклоў да абласных і рэспубліканскіх "Дажынак", і ніякіх правапарушэнняў праваахоўныя органы знайсці не здолелі, колькі не трэслі "праклятага апазіцыянера" па загадзе зверху.

Таму і не знайшлі, бо нічога і не браў дзяржаўнага, таму, што чалавек сумленны, які не захацеў адрачыся ад сваіх перакананняў і "рохкаць ля ўладнай кармушкі". А так, глядзіш, быў бы зараз дзе-небудзь у Мінску побач з сваім былым добрым знаёмым Рыгоравічам, а не ў Цяхціне ў бацькоўскай хаце адпачываў…

Так што зараз застаецца толькі шклоўскім уладам зноў запрасіць нашага земляка на пасаду дырэктара жылкамгаса, каб чарговы яго кіраўнік зноў не патрапіў за краты.

Аднак, думаю, што Рыгор Андрэевіч на пасаду, меншую за міністэрскую, ужо не пагодзіцца. Не тая ён велічыня зараз.

Так што, будзем чакаць, каго з шклоўскіх чыноўнікаў у бліжэйшы час зноў адправяць у турму. Думаю, чакаць шмат не давядзецца…

***Сяргей Семяновіч.***

# СТАРШЫНЯ МАГІЛЁЎСКАГА АБЛАСНОГА СУДА ПРЫПЫНІЎ СПАГНАННЕ ШТРАФУ З ВАЛЕРЫЯ ВУСІКА

***17ліпеня грамадскі актывіст з Бялыніцкага раёна Валерый Вусік разам з сваім прадстаўніком, магілёўскім праваабаронцам Барысам Бухелем, пабывалі на прыёме ў старшыні Магілёўскага абласнога суда Ігара Прашко.***




Па словах Валерыя Вусіка, на прыём да старшыні абласнога суда ён запісаўся папярэдне за дзесяць дзён да гэтага.

Падчас сустрэчы Ігар Прашко ўважліва выслухаў аргументы Валерыя Вусіка, чаму той не пагаджаецца з рашэннем суда Бялыніцкага раёна аб спагнанні з яго штрафа ў памеры 5 мільёнаў рублёў. Барыс Бухель падрабязна распавёў пра шматлікія парушэнні юрыдычных нормаў падчас паседжання суда Бялыніцкага раёна пад старшынствам суддзі Уладзіміра Гуза 29 сакавіка 2013 года.

Старшыня Магілёўскага абласнога суда, выслухаўшы аргументы Валерыя Вусіка і праваабаронцы Барыса Бухеля, паведаміў ім, што ўважліва вывучыць справу, каб даведацца, ці сапраўды былі працэсуальныя парушэнні падчас суда ў Бялынічах.

Таксама Ігар Прашко накіраваў распараджэнне ў суд Бялыніцкага раёна аб тым, каб судовыя выканаўцы пакуль прыпынілі спробы спагнання штрафу ў памеры 50 базавых велічынь з Валерыя Вусіка да моманту разгляду старшынёй Магілёўскага абласнога суда яго скаргі ў парадку нагляду.

Нагадаем, што 29 сакавіка 2013 года старшыня суда Бялыніцкага раёна Уладзімір Гуз пакараў Валерыя Вусік аштрафам у памеры 30 базавых велічынь за паклёп у адрас старшыні СВК "Лебедзянка" Пятра Бялова і штрафам у памеры 20 базавых велічынь за парушэнне артыкула 17 Закона аб СМІ пры распаўсюдзе газеты "Магілёўскі Выбар". Па сукупнасці канчатковы памер штрафу вызначаны ў памеры 50 базавых велічынь, што на сённяшні дзень складае 5 мільёнаў рублёў.

25 красавіка ў Магілёўскім абласным судзе адбыўся разгляд касацыйнай скаргі жыхара вёскі Лебедзянка Бялыніцкага раёна Валерыя Вусіка на рашэнне суда Бялыніцкага раёна. Суддзя Магілёўскага абласнога суда Павел Клімаў, які разглядаў касацыйную скаргу Валерыя Вусіка, прыняў рашэнне пакінуць пастанову суда Бялыніцкага раёна без зменаў, а касацыйную скаргу Валерыя Вусіка без задавальнення.

5 ліпеня 2013 года Валерый Вусік падаў скаргу з просьбай адмяніць уступіўшую ў законную сілу пастанову суда Бялыніцкага раёна аб пакаранні яго штрафам у памеры 50 базавых велічынь нібыта за паклёп і за распаўсюд газеты "Магілёўскі Выбар" на імя старшыні Магілёўскага абласнога суда Ігара Прашко.

***Вікторыя Бялова.***

## ВОРУЮТ…

26 июля Следственным комитетом возбуждено у/д по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) по отношению администрации Белыничского РАЙПО о том, что в период с 15-00 25 июля до 1-00 26 июля из магазина Белыничского РайПО в д. Пральня похищены ТМЦ (спиртные напитки, продукты питания, табачные изделия, промышленные товары) на сумму 1,5 млн руб. ОУР установлено, что преступление совершили несудимый житель д. Красное 1958 г.р. и неработающий несудимый житель д. Будище 1978 г.р. Задержаны в порядке ст. 108 УПК. Часть похищенного изъята, сообщает uvd.mogilev.by.

## ПОЖАР В КРУГЛОМ

30 июля в 00-20 в ЦОУ Круглянского РОЧС поступило сообщение о пожаре дома по ул. Жунина в г.п. Круглое. По прибытии работников МЧС дом горел открытым пламенем. При тушении пожара в спальне был обнаружен сильно обгоревший труп женщины, предположительно 1968 года рождения, которая самовольно проживала в доме.

В результате пожара уничтожены кровля и перекрытие дома, повреждено имущество, закопчены стены внутри дома. Предполагаемая причина пожара – неосторожность при курении.

# У СУСЕДНІМ БЫХАВЕ ПРАВЯЛІ ЧАРГОВЫ “ДОБРААХВОТНЫ” СУБОТНІК

***Быхаўскі райвыканкам правёў чарговы “добраахвотны” раённы суботнік “ў мэтах паляпшэння арганізацыі вольнага часу дзяцей і моладзі, а таксама падрыхтоўкі правядзення Дня беларускай пісьменасці”.***

Раённы суботнік быў праведзены 26 ліпеня на працоўных месцах ва ўсіх арганізацыях раёна, незалежна ад форм уласнасці.

Грошы, заробленыя на так званым “суботніку”, будуць пералічаны на адмысловы рахунак і выкарыстаны для добраўпарадкавання парка “50 год Перамогі” горада Быхава.

Быхаўскі пісьменнік і журналіст, выдавец газеты “Стары замак” Сяргей Антонаў кажа, што ён ужо збіўся з падліку, які па ліку суботнік у гэтым годзе правялі ў Быхаўскім раёне.

“Быхаўскія раённыя ўлады ў гэтым годзе праводзяць так званыя “добраахвотныя суботнікі” пастаянна, прыкрываючыся падрыхтоўкай да Дня беларускай пісьменасці. Я ўжо збіўся з падліку, які гэта суботнік па ліку ў Быхаўскім раёне, - распавядае Сяргей Антонаў. – І ўсё гэта робіцца для таго, каб адняць у людзей сумленна заробленыя грошы. Вось зараз правялі 26 ліпеня “добраахвотны суботнік на працоўных месцах”, увесь сэнс якога звёўся да таго, што кожны працаўнік Быхаўскага раёна пералічыў свой дзённы заробак на кветачкі і клумбачкі, каб стварыць “паказуху” для высокага начальства. Такі вось своеасаблівы рэкет з боку мясцовых уладаў. Людзі ў размовах паміж сабой абураюцца, аднак неяк адстойваць свае правы баяцца”.

Па-словах Сяргея Антонава, мясцовыя ўлады не ўкладваюцца ў зацверджаныя тэрміны падрыхтоўкі да Дня беларускай пісьменнасці і з’явіліся чуткі, што тэрмін яго правядзення можа быць перанесены.

“Мяне вельмі хвалюе лёс Быхаўскага замка, адзінага абарончага збудавання такога тыпу ва ўсёй усходняй Беларусі, а там зроблена вельмі мала. Так, праводзяцца раскопкі, але не зроблена кансервацыя будынкаў замка. І першае, што патрэбна зрабіць, пакуль будзе ісці рэканструкцыя, - гэта абнесці яго тэрыторыю добрым плотам і паставіць вартаўніка, каб недобрасумленныя людзі не расцягвалі гістарычныя каштоўнасці, як гэта адбываецца зараз.




Пакуль абсалютна нічога не зроблена па рэстаўрацыі старажытнага будынку Быхаўскай сінагогі, добра, калі да Дня беларускай пісьменасці яго паспеюць накрыць дахам, каб захаваць ад канчатковага разбурэння. Па майму меркаванню, грошы, у першую чаргу, патрэбна накіроўваць на захаванне быхаўскіх гістарычных каштоўнасцей, а не навядзенне нейкай паказухі.

Наогул, зараз па Быхаву гуляюць чуткі, што тэрмін правядзення Дня беларускай пісьменасці можа быць перанесены на пазнейшы тэрмін, бо ўлады не паспяваюць да яго своечасова падрыхтавацца належным чынам”, - кажа Сяргей Антонаў.

Згодна інфармацыі журналістаў “Паходні”, бліжэйшым часам “добраахвотны” суботнік збіраюцца зладзіць і ў нашым Бялыніцкім раёне. Ва ўсялякім выпадку, сярод супрацоўнікаў мясцовага райвыканкама вядуцца пра гэта пастаянныя размовы.

Што ж, беларускія чыноўнікі з’яўляюцца дастойнымі прадаўжальнікамі справы “вялікага камбінатара” Астапа Бендэра, напоўніцу выкарыстоўваючы ўсе магчымасці, не парушаючы крымінальны кодэкс, адбіраць у людзей сумленна заробленыя грошы…

***Іван Барысаў.***

## У Быхаве мужчына з нажом скраў печыва

Здарэнне адбылося раніцай 27 ліпеня ў краме “Цэнтральны”.

70-гадовы раней судзімы мужчына, пагражаючы нажом, адкрыта забраў чатыры пачкі печыва. Пры гэтым сума скрадзенага склала 29 500 рублёў (крыху больш за 3 долары).

Злодзей затрыманы. Яму пагражае да 15 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці, паведамляе сайт магілёўскай міліцыі.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЯК КДК «МАНІТОРЫЦЬ» ЖКГ

***10 ліпеня Камітэт дзяржкантролю Беларусі заявіў, што пасля паўгадавога ўзмоцненага маніторынгу ў 8% арганізацый жыллёва-камунальнай гаспадаркі выяўлены страты ў памеры 30 млрд. рублёў. За час праверкі былі выяўлены шматлікія факты нерацыянальнага выкарыстання энэргетычных, водных, цеплавых рэсурсаў. У той жа час гэтыя страты аплочваюцца з дзяржаўнага бюджэту. У асноўным страты звязаны са зношанасцю труб і збудаванняў, як, напрыклад, у Віцебскай вобласці, дзе замене падлягаюць 95% сетак водазабеспячэння. Было адзначана і аб наяўнасці чалавечага фактару ў існуючых негатыўных з'явах сферы ЖКГ.***

Як запэўніў начальнік галоўнага ўпраўлення Камітэту дзяржкантролю Беларусі Сяргей Раўнейка, урад краіны ўжо прымае некаторыя меры па пераадоленню негатыва. На днях падпісана пастанова, якая прадугледжвае новы механізм фінансавання арганізацый ЖКГ.

Рэзанансам да выказванняў прадстаўніка КДК прагучалі і словы намесніка міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі Анатоля Шагуна. Спадар Шагун запэўніў, што шэраг жыллёва-камунальных прадпрыемстваў краіны ўжо сёння пераходзяць на новы механізм работы, а ў поўную сілу пастанова запрацуе з наступнага года.

Слухаючы падобныя завярэнні адказных асобаў, часам хочацца спадзявацца і верыць, што, нарэшце, у сферы ЖКГ будзе наведзены парадак. Што урад краіны прыме такую пастанову, якая будзе "пастановай усім пастановам". Што фінансавыя сродкі як з бюджэту краіны, так і плацяжы насельніцтва будуць выкарыстоўвацца мэтаскіравана і празрыста. Што грамадзяне краіны атрымаюць якасныя камунальныя паслугі і здолеюць разабрацца згодна "жыровак" — за што яны плацяць…

Але розум і разважлівасць бярэ сваё. Бо, разабраўшыся, можна лёгка заўважыць, што падобныя заявы і пастановы — гэта чарговая прафанацыя.

Супрацоўнікі Камітэту дзяржкантролю, як і іх калегі з іншых сілавых ведамстваў краіны, дзейнічаюць па прынцыпу, які дазваляе ім бачыць толькі вярхушку "негатыву-айсбергу" — як у сферы ЖКГ краіны, так і ў іншых галінах эканомікі. Заглянуць глыбей, відаць, у іх проста няма жадання, альбо паўнамоцтваў.




У нашай краіне больш жорсткія падыходы да тых, хто скраў мех бульбы альбо літр малака, як гэта было з даяркамі ў Быхаўскім раёне, якіх асудзілі ў лютым 2013 года за крадзёж 10 літраў малака з калгаснай фермы. Следства і суд былі праведзены на працягу менш чым аднаго месяца пасля здзяйснення злачынства.

Канешне, за любое злачынства павінна быць пакаранне.

Але як жа тады разумець, што следства на працягу трох гадоў не можа разабрацца з былым першым намеснікам старшыні Шклоўскага райвыканкама, які ажно ў 2010 годзе атрымаў хабар у памеры 59 млн. руб. за заключэнне фінансавай здзелкі і пералічэнне на рахунак кампаніі-падрадчыка 17 млрд. рублёў (больш 5 млн. долараў) для закупкі буйной рагатай жывёлы. Затрымалі яго толькі ў красавіку 2013 года. Але пры гэтым нашы слаўныя барацьбіты забыліся сказаць, што Шклоўскі раён да гэтай пары так і не дачакаўся таго пагалоўя БРЖ, як і вяртання тых 17 млрд. Рублёў бюджэтных сродкаў, ды, відаць, і не дачакаецца.

Менавіта вось такім чынам спрацавалі і супрацоўнікі КДК, паўгады маніторыўшыя 8% прадпрыемстваў ЖКГ, але не жадаючы заўважаць рэчы больш буйнога маштабу. А заўважаць было і ёсць што…

Чаму ж так атрымалася, што ў Віцебскай вобласці 95% сетак водазабеспячэння маюць вялікую зношанасць і падлягаюць замене? Ды не лепшы стан трубапровадаў і ў іншых рэгіёнах краіны.

Пры гэтым на выкананне разнастайных праграм у сферы ЖКГ рэгулярна выдзяляюцца аграмадныя сродкі.

Так, напрыклад, пастановай Савета міністраў № 720 ад 7 чэрвеня 2006 года была зацверджана Праграма развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь на 2006-2010 гады. Для забяспячэння паспяховага выканання дадзенай праграмы з бюджэту краіны выдзяляліся фінансавыя сродкі ў памеры 12 826,2 млрд. рублёў.

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# ЯК КДК «МАНІТОРЫЦЬ» ЖКГ

Рэспубліканскай праграмай мадэрнізацыі сістэмы энэргазабеспячэння было прадугледжана на 2006-2010 гады фінансаванне ў памеры больш 5 млрд. долараў.

Дадзеныя праграмы вызначалі на кожны год пракладку новых і замену соцен кіламетраў труб цепла- і водазабеспячэння, будаўніцтва і рэканструкцыю збудаванняў.

Але практычна ўсе дзржаўныя праграмы 2005-2010 гадоў у сферы забеспячэння насельніцтва жыллёва-камунальнымі паслугамі правалены, нягледзечы на тое, што неабходныя сродкі пад іх выкананне былі выдзелены і скарыстаны.

Падобныя праграмы зацверджаны пастановамі Савета міністраў і на 2011-2015 гады, з выдзяленнем неабходнай колькасці фінансавых сродкаў.

Так, на Праграму развіцця ЖКГ на 2011-2015 г. прадугледжваецца фінансаванне з бюджэту ў памеры 54 247,7 млрд. рублёў. Згодна дадзенай праграмы плануецца замена 3831,3 км цеплasетак прадпрыемстваў ЖКГ. За 2011 і 2012 гады, згодна справаздач, ўжо заменена болей 1,5 тыс. км.

На выкананне праграмы "Чыстая вада" ў 2011-2015 гадах плануецца выдзяленне фінансавых сродкаў у памеры 486 050 млн. рублёў з рэспубліканскага бюджэту і 208 376 млн. рублёў — за кошт крэдытных рэсурсаў Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця.

29 лютага 2012 года пастановай Савета міністраў за № 194 зацверджана Дзяржаўная праграма развіцця Беларускай энэргетычнай сістэмы на перыяд да 2016 года. Агульная фінансавая патрэбнасць дадзенай праграмы складае 45 063 078,4 млн. рублёў (5403 млн. долараў).

Але, як паказвае час, і гэтыя праграмы ўжо знаходзяцца пад пагрозай невыканання.

Да прыкладу, адназначна правалены работы па будаўніцтву водазабора "Вязынка" ў Мінску па праграме "Чыстая вада", з уводам якога планавалася зняць праблему з забяспячэннем артэзіянскай вадой шэрагу




мікраараёнаў горада.

Згодна дадзенай праграмы ў 2013 годзе Мінск павінен цалкам перайсці на падземныя крыніцы водазабеспячэня, але гэтаму не суджана збыцца, хаця неабходныя сродкі для закупкі абсталявання і будаўніцтва водазабора былі своечасова выдзелены.

Працэсамі фінансавання і выкарыстання дзяржаўных сродкаў па набыццю абсталявання для станцый абезжалезвання вады водазабора "Вязынка", на іншыя водазаборы Мінска, працэсамі будаўніцтва аб'ектаў водазабора яшчэ ў 2012 годзе зацікавіліся Генеральная пракуратура і Камітэт дзяржкантролю Беларусі. Але далей цікавасці справа не пайшла, відаць праца для іх аказалася "непад'ёмная". Як і праца па вызначэнню маршрута выдзяляемых фінансавых сродкаў на выкананне разнастайных праграм у сферы аказання насельніцтву жыллёва-камунальных паслуг…

Зразумела, нашмат лягчэй сядзець дзесці на аб'екце і "маніторыць" на працягу шасці месяцаў, як разгружаюцца і захоўваюцца дровы.

***Рыгор КАСТУСЁЎ.***

## ДАШЛІЦЕ ПАШТОЎКУ САЛІДАРНАСЦІ АЛЕСЮ БЯЛЯЦКАМУ!

***Бялыніцкія актывісты "Гавары праўду" заклікаюць дасылаць паштоўкі салідарнасці Алесю Бяляцкаму і іншым беларускім палітвязням.***

Усе жадаючыя падтрымаць праваабаронцу-палітвязня Алеся Бяляцкага, два гады з дня арышту якога мінула 4 жніўня, могуць атрымаць паштоўкі для яго ў краме "Мяцеліца" у Бялынічах.

Кіраўнік Праваабарончага цэнтра "Вясна" і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) быў арыштаваны 4 жніўня 2011 года. 24 лістапада 2011 года праваабаронца быў асуджаны Першамайскім раёным судом горада Мінска да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Па сутнасці кіраўнік ПЦ "Вясна" быў асуджаны за атрыманне фінансавых сродкаў для дзейнасці арганізацыі. Гэты прысуд расцэнены міжнароднай супольнасцю адназначна як расправа над вядомейшым беларускім праваабаронцам і спроба спыніць дзейнасць "Вясны".

Алесь Бяляцкі адбывае пакаранне ў калоніі №2 горада Бабруйска.

**Даслаць паштоўку ў падтрымку палітвязня можна на адрас: 213807, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, ІК №2, атрад №14.**

# ЛУКАШЕНКО ОТСТРАНИЛ ОТ УПРАВЛЕНИЯ КАЛИЕМ НАШЕГО ДЕПУТАТА

*(Оконч. Начало на стр. 1)*

новую должность Лукашенко дал согласие на назначение генеральным директором БКК Елены Кудрявец.

До этого Кудрявец работала заместителем генерального директора по коммерческим вопросам и логистике ОАО "Беларуськалий".

"Перераспределение власти на крупнейшем комбинате с последующим распилом. Цена вопроса – 30 миллиардов долларов", - именно так руководитель аналитического центра "Стратегия" Леонид Заико характеризует кадровые перестановки, связанные с ЗАО "Беларуская калийная компания" в интервью UDF.BY.

"Схема проста: убирается директор предприятия, который переводится в Минск и усаживается в кресло, где он находится под полным контролем 24 часа в сутки. Посмотрите: Тур стал главой президентской администрации – и мы потеряли Андрея Николаевича: без особого разрешения он даже стишок на детском утреннике не прочитает, - поясняет суть перестановки Леонид Заико. – Путин тоже назначает женщин, когда ждет молчания".

Зачем вообще понадобились кадровые перестановки в сфере, которая несет государству золотые яйца?

- Перестановки связаны с тем, что создан "Союзкалий", штаб-квартира которого находится в Швейцарии. Российскую сторону в "Союзкалии" представляют люди из Дагестана, кавказский мальчик Сулейман Керимов и кампания. В состав "Уралкалия" входят также иностранцы, которые ничего не решают.

С белорусской стороны убрали первое лицо, поставив на его место женщину. Это перераспределение власти на крупнейшем комбинате с последующим распилом предприятия. Если работникам "Беларуськалия" (рабочие, служащие, инженеры) при приватизации достанется 33% акций предприятия, каждый из них станет собственником полмиллиона долларов. Если мама и сын работают на "Беларуськалии" - они станут миллионерами. Цена вопроса – 30 миллиардов долларов, в которые оценивается "Беларуськалий", - убежден Леонид Заико.

Экономист уверен, что это проект "совместного распила белорусской собственности".

- Коллеги из Москвы говорили, что в перспективе российское руководство хочет национализировать "Уралкалий". Москва хотела бы убрать сырьевой источник из рук людей со странным прошлым. Если Кремль пойдет по пути национализации, то первой крупнейшей корпорацией двух государств станет калийная. Дают процентов 70 за то, что "Уралкалий" уйдет под крышу российского государства. «Беларуськалий» даже национализировать не надо.

Игра идет на миллиарды. В новом свете очень интересна позиция 20 тысяч рабочих "Беларуськалия" - они молчать не будут, - убежден Леонид Заико.

Напомним также, что 30 июля на мировых рынках рухнули котировки большинства калийных кампаний, после того как «Уралкалий» объявил, что прекращает экспортные продажи через Белорусскую калийную компанию, т.к. "сотрудничество с белорусскими партнерами зашло в тупик".

Валерий Иванов родился 27 июля 1955 года в деревне Попехинка Климовичского района Могилевской области.

Окончил Белорусскую ордена Октябрьской Революции и ордена Трудового Красного Знамени сельскохозяйственную академию, зооинженер; Институт политологии и социального управления Белорусского государственного университета, политолог; Академию управления при Президенте Республики Беларусь по специ-



***Валерий Иванов***

альности «Управление предприятиями агропромышленного комплекса».

Служил в рядах Вооруженных Сил. Работал главным зоотехником, председателем колхоза «Октябрь» Круглянского района, первым заместителем председателя Круглянского райисполкома — начальником управления сельского хозяйства и продовольствия. Был председателем колхоза имени Димитрова Круглянского района, председателем колхоза «Рассвет» имени К.П.Орловского Кировского района, председателем Кировского райисполкома, председателем Шкловского райисполкома Могилевской области, заместителем Председателя Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь, первым заместителем председателя Минского областного исполнительного комитета, Заместителем Премьер-министра Республики Беларусь, генеральным директором закрытого акционерного общества «Белорусская калийная компания».

***Ирина Беганкина.***

**Анекдот дня**

*Учительница проверяла сочинения и плакала: теперь она знала, как провести лето, но годы уже не те…*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 02.08. 2013 г. у 12-00.